Грамадзянская кампанія «Беларусь без палітвязняў!»

# ПАЛІТВЯЗНІ

травень 2012, бюлетэнь газеты «НАШ Магілёў», №4



# СЯРГЕЙ КАВАЛЕНКА АДНАВІЎ ГАЛАДОЎКУ

**Паводле жонкі Сяргея Каваленкі Алены Каваленкі, яе муж 8 траўня аднавіў галадоўку пратэсту супраць незаконнага, як ён лічыць, прысуду.**

«Да гэтага патрабаваньня ён дадаў патрабаваньні вызваліць усіх палітвязьняў і даць свабоду нацыянальнай сымболіцы.

Сяргея зьмясьцілі ў той самы ізалятар у Віцебску, дзе ў сьнежні адносна яго чынілі правакацыі. Ён у вельмі дрэнным фізычным стане, але яму адмаўляюць у кваліфікаванай мэдычнай дапамозе.

Згодна з Канвэнцыяй правоў чалавека, якую падпісала Беларусь і з Канстытуцыяй нашай краіны кожны чалавек мае права на медычную дапамогу, дзе б ён ні знаходзіўся, калі ёсць для гэтага мэдычныя паказаньні, а ў Сяргея яны вельмі сур'ёзныя.

Толькі чамусьці такога права ён пазбаўлены. За што яго зьнішчаюць? За любоў да Радзімы, роднай мовы і павагу да нацыянальных сымбаляў», — сказала «Свабодзе» Алена Каваленка.

Актывіст КХП-БНФ Сяргей Каваленка быў асуджаны на 2 гады і месяц зьняволеньня па абвінавачаньні ў парушэньні хатняй «хіміі», якую атрымаў за вывешваньне бел-чырвона-белага сьцяга на навагодняй яліне ў Віцебску. Зь сярэдзіны сьнежня да канца сакавіка зь перапынкам на 20 дзён Каваленка трымаў галадоўку, за час якой схуднеў да менш як 50 кіляграмаў вагі. Падчас знаходжаньня ў Навінках на псыхіятрычнай экспэртызе Каваленка набраў каля 10 кіляграмаў вагі. Колькі ён важыць цяпер, невядома.






**http://gazetanm.eu**

**першая незалежная газета горада**

**Паважаныя магілёўцы!**

Мэта нашага бюлетэня – гэта інфармаванне гараджан аб наяўнасці ў краіне палітвязняў і праз грамадскае асуджэнне, салідарнасць і актыўнасць вызваленне іх з-за кратаў.

## ЯЎГЕН ВАСЬКОВІЧ ПЕРАДАЎ ПРЫВІТАННЕ “ЎСІМ НАШЫМ ЖУРНАЛІСТАМ”

Былая калега Яўгена Васьковіча па газеце “Бобруйский курьер” Алеся Скапінцава атрымала ад яго першы ліст.

Як вынікае з паслання вязня магілёўскай калоніі № 4, і лісты яму з волі, і яго лісты на волю даходзяць далёка не ўсе.

Яўген напісаў, што на здароўе і настрой не скардзіцца і перадаваў прывітанне “ўсім нашым журналістам”.

## ФРАНЦЫЯ МАЕ НАМЕР РАШУЧА ДАМАГАЦЦА ВЫЗВАЛЕННЯ АЛЕСЯ БЯЛЯЦКАГА



Алесь Бяляцкі застаецца пад арыштам з 4 жніўня. Яму выставілі абвінавачанне на падставе часткі 2 артыкулу 243 Крымінальнага кодэксу (утойванне прыбыткаў у асабліва буйным памеры). Падставаю для крымінальнага пераследу праваабаронцы стала інфармацыя пра ягоныя рахункі ў замежных банках, перададзеная ўладам Беларусі Міністэрствам юстыцыі Літвы ды Генпракуратураю Польшчы.

24 лістапада 2011 г. асуджаны Першамайскім судом Менска на 4,5 гады калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасьці. Ад 17 лютага 2012 г. знаходзіцца ў папраўчай калоніі г. Бабруйска.

**Пра гэта гаворыцца ў паведамленні на сайце французскага МЗСу з нагоды ўдзелу Пасла Францыі па правах чалавека Франсуа Зімерэ ў мерапрыемстве, арганізаваным у падтрымку Алеся Бяляцкага мэрыяй Парыжа 11 траўня.**

«Алесь Бяляцкі, прэзідэнт беларускай асацыяцыі «Вясна» і віцэ-прэзідэнт Міжнароднай Федэрацыі за правы чалавека, знаходзіцца ў зняволенні ў Беларусі з 4 жніўня 2011 г., а 24 лістапада 2011г. у рамках перадузятага судовага разгляду яго прысудзілі да чатырох з паловай гадоў зняволення ў папраўчай калоніі.

Францыя ўжо неаднаразова заяўляла сваю падтрымку сп. Бяляцкаму і выказвала рашучасць працягваць дамагацца яго вызвалення. Намінацыя гэтага годнага кандыдата на Нобелеўскую прэмію міру 2012 адлюстроўвае прызнанне яго дзейнасці ў імя правоў чалавека», - паведамляе МЗС Францыі.

Таксама сайт знешнепалітычнага ведамства піша пра тое, што наведванне мерапрыемства, якое прайшло ў рамках акцыі «Парыж за Алеся Бяляцкага!», стала часткай афіцыйнай праграмы сустрэчы пасloў па правах чалавека 11 траўня ў Парыжы, у якой разам з прадстаўніком Францыі Франсуа Зімерэ прымалі ўдзел Ан-Мары Ніроас (Ann-Marie Nyroos) з Фінляндыі, Іштван Лакатас (Istvan Lakatos) з Венгрыі, Ліянэль Вір (Lionel Veer) з Галандыі і Ханс Дальгрэн (Hans Dahlgren) з Швецыі.

# МАРИНА АДАМОВИЧ: НА СТАТКЕВИЧА УСИЛИЛОСЬ ДАВЛЕНИЕ



**На бывшего кандидата в президенты, политического заключенного Николая Статкевича, в могилевской тюрьме № 4 усилилось давление.**

Такой вывод сделала жена политика Марина Адамович после получения последних писем от политика.

Ее насторожила одна фраза из последнего письма.

- «В последнее время снова начались поиски неких «недостатков». Он слово недостатки берет в кавычки. Видимо, это очень ключевая фраза. Он пишет, что это все проходил уже в Шклове, поэтому его не трогает. Одно воспоминание о Шклове вызывает у меня судорожную реакцию. То, что там происходило, можно охарактеризовать фразой, которую я прочитала в интернете. Кто-то из его адресатов опубликовал письмо Николая: «Что только не делали, только дустом не пробовали».

По словам Марины Адамович, информация эта очень тревожная, хотя и ожидаемая. «Ряд событий вынуждают власти и администрацию тюрьмы нервно реагировать. Это и обещанная амнистия, хотя Николай Статкевич однозначно сказал, что он под нее не попадает. Очень зря и плохо рассчитывать сегодня на амнистию. Это самоуспокоение и белорусов, и европейцев. Снова начинается ожидание, снижается давление и уровень требований. Также приближается срок, когда согласно уголовно-исполнительному кодексу должна быть рассмотрена возможность перевода Статкевича из тюрьмы на общий режим - и это может быть одной из причин давления», - полагает Марина Адамович.

# ПАВЕЛ СЕВЯРЫНЕЦ: «НЕВІНАВАТЫ ВІНУ ПРЫЗНАВАЦЬ НЕ ПАВІНЕН...»



**Сустаршыня аргкамітэта па стварэнні партыі “Беларуская хрысціянская дэмакратыя” Павел Севярынец, які адбывае два гады “хіміі” ў вёсцы Куплін Пружанскага раёна, адмовіўся прызнаць сябе вінаватым ўзамен на замену рэжыму ўтрымання на больш мяккі.**

Пра гэта ў тэлефоннай размове палітык паведаміў карэспандэнту “Народнай Волі”.

“У тым, што мне прапаноўвалі змяніць умовы ўтрымання, палітычнага складніка няма, — гаворыць Павел. — Для тых, хто адбывае пакаранне на “хіміі”, існуе наступная практыка: па заканчэнні 1/3 тэрміну зняволення вязня выклікаюць у спецкамендатуру, дзе прапаноўваюць прызнаць сваю віну ўзамен на нейкую палёгку. Так было і са мной. Мяне выклікалі ў спецкамендатуру і сказалі: хутка будзе разглядацца твая справа, і ў выпадку, калі ты падпішаш паперу аб тым, што прызнаеш сваю віну, цябе перавядуць у Віцебск на хатні рэжым адбывання пакарання. Гэта значыць, што можна было б жыць дома, хадзіць на працу і адзначацца ў міліцыі. Я сказаў, што нічога падпісваць не буду, бо невінаваты чалавек віну прызнаваць не павінен. Тады мне прапанавалі хаця б вусна, на словах, прызнаць сваю віну, але я адмовіўся і ад гэтага...”

Нагадаем, што, знаходзячыся ў СІЗА КДБ пасля снежаньскіх падзей у Мінску, Павел Севярынец быў ледзьве не адзіным, хто адмовіўся ад дачы хоць нейкіх паказанняў. Акрамя сваіх пашпартных даных, ён нічога не сказаў следчым СІЗА.

У выніку суд прызнаў Севярынца вінаватым у арганізацыі і ўдзеле ў групавых дзеяннях, якія груба парушаюць грамадскі парадак, і прыгаварыў яго да трох гадоў абмежавання волі.

*16 мая судья Заводского района Минска Жанна Брысина осудила Павла Северинца на три года «химии» за участие в акции протеста 19 декабря 2010 года. Северинец 11 августа прибыл в деревню Куплин Пружанского района для отбывания наказания, где и отбывает его до сих пор.*

## ДА МІКАЛАЯ СТАТКЕВІЧА ЗВЯРНУЛІСЯ ДЭПУТАТЫ БУНДЭСТАГА



Дэпутаты Бундэстага ФРГ Ута Цапф, Гернат Эрлер і Франц Тэнес звярнуліся з адкрытым лістом да Мікалая Статкевіча, які адбывае пакаранне ў Магілёўскай турме. У пасланні яны выказваюць палітвязню поўную падтрымку, як аднаму з лідэраў апазіцыі ў Беларусі.

«Мы ведаем, - пішуць дэпутаты, -, што на цябе аказваўся і працягвае аказвацца моцны маральны, псіхічны і фізічны ціск. Глыбока закранулі нас два няшчасныя выпадкі, якія адбыліся з табой у калоніі. Моцным рэпрэсіям і ціску падверглі не толькі цябе, але і тваю сям'ю. Тым не менш, ты стойка перанёс гэта і змог захаваць свае палітычныя перакананні і пазіцыю для будучыні Беларусі. Гэта не змянілася нават пасля таго, як у студзені гэтага года ты быў прысуджаны да трох гадоў узмоцненага турэмнага рэжыму».

Дэпутаты Бундэстага працягваюць патрабаваць неадкладнага вызвалення ўсіх палітычных зняволеных з турмаў і калоній, а таксама выканання ў дачыненні да іх канстытуцыйных працэдур і прадастаўлення ім медыцынскага забеспячэння.

# АЎТУХОВІЧ НЕ ЗЛОМЛЕНЫ ЧАЛАВЕК

**У Беларусі да Дня незалежнасці 3 ліпеня можа быць аб'яўлена амністыя. Ці закране яна палітычных вязняў, у тым ліку былога аўганца Мікалая Аўтуховіча?**



Спадзяванняў няшмат, кажа сябра палітвязня, таксама ветэран аўганскай вайны Аляксандр Камароўскі:

- Шчыра кажучы ў мяне такой надзеі няма. Аўтуховіч дасылае мне лісты, я адчуваю, што і ў яго такой надзеі няма. Аўтуховіч не зломлены чалавек, а яны выпускаюць тых, якія ўжо зламаліся, а не зломлены чалавек небяспечны. Мы глыбока сумняемся, мы канешне хацім каб яго выпусцілі. Яму сапсавалі ўсё жыццё, а таксама яго сям'і, пры тым злачынна сфальсіфікаваўшы.

Мікалай Аўтуховіч 15 кастрычніка 2005 года быў арыштаваны па абвінавачанні ва ўхіленні ад выплаты падаткаў і ў прадпрымальніцкай дзейнасці без рэгістрацыі і ліцэнзіі. Асуджаны 7 ліпеня 2006 года на 3,5 гады пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці. У студзені 2008 года зняволенне было замененае папраўчымі працамі па месцу жыхарства. Зноў быў Асуджаны на 5 гадоў і 2 месяцы калоніі ўзмоцненага рэжыму, нібыта, за незаконнае захоўванне і перавозку пяці патронаў і паляўнічай стрэльбы. Праваабарончая арганізацыя "Міжнародная амністыя" прызнала Аўтуховіча вязнем сумлення.

## ГОРАЦКІЯ СТУДЭНТЫ СКАРДЗЯЦЦА НА ПРЫМУСОВУЮ ПРАЦУ

У сувязі з правядзеннем фестываля "Дажынкі-2012" горацкіх студэнтаў прымушаюць працаваць на будоўлі і ў батанічным садзе. Дакладна вядома, што студэнты другога курса факультэта "Бізнэса і права" былі абавязаны ў перыяд з 16 красавіка па 13 траўня працаваць на карысць акадэміі. Гэтая праца знаходзілася па-за вучэбным планам, заняткі ў гэты перыяд былі "замарожанымі". Да прагульшчыкаў адміністрацыя акадэміі пагражала ўжываць разнастайныя санкцыі.

## АКЦЫЯ НА БРЭСТЧЫНЕ Ў ПАДТРЫМКУ ПАЛІТВЯЗНЯ СЯРГЕЯ КАВАЛЕНКІ

У сямі гарадах Брэсцкай вобласці - Брэсце, Кобрыне, Пінску, Баранавічах, Івацэвічах, Ганцавічах і Белаазёрску-актывістамі руху "За свабоду" і аргкамітэту па стварэнні партыі БХД былі раздадзены бел-чырвона-белыя стужкі кіроўцам аўтамабіляў як напамін людзям аб замененых на ганебным рэферэндуме 1995 года дзяржаўных нацыянальных сімвалах: бел-чырвона-белым сцягу і гербе "Пагоня". Акцыя была таксама накіраваная на падтрымку палітвязня Сяргея Каваленка, які пакутуе ў турме за вывешванне нацыянальнага бел-чырвона-белага сцяга на елцы на галоўнай плошчы Віцебска.

Па словах каардынатара руху "За свабоду"па Брэсцкай вобласці Зміцера Траццяка, людзі не адмаўляліся ад стужак, бралі і вывешвалі на аўтамабілі.

Акцыя прайшла спакойна, без інцыдэнтаў і затрыманняў.

# В ООН ПОДАНА ЖАЛОБА О ПЫТКАХ В ОТНОШЕНИИ ДМИТРИЯ БОНДАРЕНКО

**Спецдокладчику ООН по пыткам направлена жалоба с просьбой расследовать факты применения пыток к политзаключенному Дмитрию Бондаренко.**

Активистами инициативы «Правозащитники против пыток» направлена срочная жалоба, которая подается на основании подозрений о том, что в отношении лица применяются пытки, когда требуется вмешательство для прекращения таких действий.




Авторы жалобы указывают на тяжелое состояние здоровья Дмитрия Бондаренко после проведенной в сентябре прошлого года операции на позвоночнике, невозможность проведения предписанных медиками реабилитационных процедур в заключении. Указывается на принуждение Бондаренко выполнять действия, которые могут усугубить состояние его здоровья и даже привести к обездвиживанию (стояние, хождение в строю, длительное сидение, «скручивающие» нагрузки на позвоночник.) Кроме того, указывается на отказ предоставить Дмитрию Бондаренко группу инвалидности.

Спецдокладчику ООН также направлены медицинские документы, подтверждающие состояние здоровья Дмитрия Бондаренко, а также заключение экспертизы, проведенной украинским специалистом Андреем Рохановским.

По утверждению Андрея Рохановского, в Украине пациентам с таким состоянием здоровья назначается вторая группа инвалидности.

«Совокупность приведенных медицинских данных свидетельствует о необходимости проведения для Бондаренко Д.Е. медико-социальной экспертизы с установлением степени утраты трудоспособности...

Непредоставление Бондаренко Д.Е. специальных медицинских реабилитационных средств медтехники (ортопедическая обувь, трость) может быть расценено как пытки и жестокое обращение», —

Бюлетэнь "Палітвязні"
Галоўны рэдактар - Вітольд Няўрыда
Наклад - 299 асобнікаў.
Надрукавана на ўласным абсталяванні.
Распаўсюд бясплатны.
Адрас электроннай скрынкі: gazetanm.eu@gmail.com

ВЯСНА праваабарончы цэнтр

# АГЛЯД-ХРОНІКА ПАРУШЭННЯЎ ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА Ў БЕЛАРУСІ. КРАСАВІК 2012 ГОДУ

Красавік адзначыўся першымі крокамі ў накірунку дэаскалацыі палітычнага канфлікту паміж беларускімі ўладамі і Еўрапейскім Саюзам, у выніку якога былі адпушчаны на волю двое палітычных зняволеных – экс-кандыдат у прэзідэнты Андрэй Саннікаў і ягоная даверaная асоба Дзмітрый Бандарэнка (14 і 15 красавіка адпаведна). У адказ на гэты крок ЕС адмовіўся ад прыняцця далейшых санкцый у адносінах да Беларусі, аднaчасова падкрэсліўшы на паседжанні 23 красавіка пра неабходнасць вызвалення ўсіх палітычных зняволеных.

Яшчэ адзін са знакаў пачатку палітычнага пацяплення ў адносінах Еўрасаюза і беларускіх уладаў і паступовага ўзнаўлення дыялогу – вяртанне ў канцы красавіка амбасадараў краін ЕС, якія пакінулі Беларусь у канцы лютага ў знак салідарнасці з кіраўніком прадстаўніцтва Еўракамісіі Майрай Морай і амбасадарам Польшчы Лешакам Шарэпкам, якім беларускі МЗС прапанаваў выехаць у свае сталіцы для кансультацый, каб «давесці свайму кіраўніцтву цвёрдую пазіцыю беларускага боку аб непрымальнасці ціску і санкцый».

Разам з тым, афіцыйны Мінск заняў пазіцыю адмаўлення таго, што вызваленне А. Саннікава і Д. Бандарэнкі адбылося у выніку палітычнага ціску з боку ЕС. 21 красавіка, выступаючы перад журналістамі на суботніку ў Мінску, А. Лукашэнка заявіў: “Не напісалі б прашэння аб памілаванні – сядзелі б да гэтага часу, і тыя, хто там застаўся і не напісаў гэтага звароту на імя прэзідэнта, будуць сядзець”. Аднaчасова кіраўнік дзяржавы не выключыў, што бліжэйшым часам можа быць абвешчана амністыя, назваўшы прыкладны тэрмін: да Дня Незалежнасці (3 ліпеня), растлумачыўшы гэты намер наступным чынам: “А то бандзюг выпусцілі, а нармальныя людзі за кратамі пакутуюць”. Дадзеная заява А. Лукашэнкі акрэсліла не толькі прыкладную дату, але і прававы механізм, які можа быць выкарыстаны для вызвалення палітычных вязняў.

Кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта Беларусі Уладзімір Макей таксама катэгарычна адмаўляў, што на рашэнне аб вызваленні палітвязняў паўплывала цвёрдая і паслядоўная пазіцыя ЕС. 17 красавіка ён заявіў: “Ніякага вызвалення пад ціскам не будзе... Кажуць, што засталося паўтары ці два




дзясяткі нейкіх палітычных зняволеных, якія, цытую, “неабходна неадкладна вызваліць, неадкладна рэабілітаваць”. У гэты спіс уключылі нават радыкальных рэвалюцыянераў-анархістаў, якія закідвалі расійскую амбасаду бутэлькамі з запальнай сумессю, кактэлямі Молатава. Па інтэрпрэтацыі Еўрасаюза, заўтра гэты спіс можа разрасціся і да 50-60 чалавек”.

Дадзеныя заявы вышэйшага кіраўніцтва краіны пакідаюць спадзяванне, што пасля сямімесячнай паўзы, якая ўсталявалася з часу “апошняй хвалі” вызвалення палітычных вязняў (верасень 2011 года), гэты працэс будзе ўзноўлены. Што датычыць персанальнага спісу палітычных зняволеных, Праваабарончы цэнтр “Вясна” настойвае на безумоўным вызваленні 10 асобаў: Мікалая Аўтуховіча, Мікалая Статкевіча, Паўла Севярынца, Дзмітрыя Дашкевіча, Эдуарда Лобава, Алеся Бяляцкага, Сяргея Каваленкі, Ігара Аліневіча, Мікалая Дзядка і Аляксандра Францкевіча; у адносінах Яўгена Васьковіча, Арцёма Пракапенкі і Паўла Сырамалотава – патрабуе перагляду справаў справядлівым судом і вынясення прапарцыйных пакаранняў здзейсненаму імі правапарушэнню.

На працягу месяца адбывалася замацаванне тэндэнцыі да абмежавання грамадскай і палітычнай актыўнасці палітычных апанентаў, у тым ліку – былых палітвязняў: у красавіку супраць Васіля Парфянкова ўзбуджана крымінальная справа за парушэнні ўмоваў вызначанага судом прэвентыўнага нагляду, у адносінах да Паўла Вінаградава прэвентыўны нагляд установлены тэрмінам на 2 гады (у сакавіку дадзеная форма абмежавання тэрмінам на 1 год была ўсталявана за Уладзімірам Яроменкам). Не спыняўся пераслед актывістаў па надуманых падставах у адміністрацыйным парадку, фіксаваліся факты незаконных і адвольных затрыманняў і арыштаў. Красавік адзначыўся падаўленнем свабоды выказвання меркаванняў і свабоды сходаў: за выключэннем дазволенага ў Мінску “Чарнобыльскага шляху”, усе масавыя мерапрыемствы ў краіне былі забароненыя.

# ЛЮБОЎ І ТАЦЦЯНА КАВАЛЁВЫ СУСТРЭЛІСЯ З ЖОНКАЙ ПРЭЗІДЭНТА ПОЛЬШЧЫ

**15 траўня Любоў і Таццяна Кавалёвы, маці і сястра Уладзіслава Кавалёва, растралянага паводле выраку суду па справе аб выбуху ў менскім метро, сустрэліся з Аннай Камароўскай – жонкай прэзідэнта Польшчы Браніслава Камароўскага.**

Тыднёвы візіт Любові і Таццяны Кавалёвых у Польшчы, зарганізаваны тэлебачаннем TVN у межах акцыі “Стоп смяротнаму пакаранню ў Беларусі”, распачаўся 14 траўня.

Анна Камароўская вырашыла падтрымаць грамадскую акцыю за ўвядзенне мараторыя на смяротнае пакаранне ў Беларусі і падпісаць петыцыю, створаную праваабарончымі арганізацыямі Беларусі.

У межах візыту запланаваны таксама паказ рэпартажу аўтарства Манікі Гуралеўскай “Jak wygląda wymiar sprawiedliwosci na Bialorusi” у Хэльсінськай Фундацыі, спатканне ў Беларускім Доме, а таксама выступленні спадарыняў Кавалёвых на тэлебачанні TVN, TTV і іншых польскіх і беларускіх сродках масавай інфармацыі.

Акцыя, зарганізаваная тэлекампаніяй TVN, скіраваная да польскага грамадства, у тым ліку да прадстаўнікоў польскай эліты. Пэтыцыю за ўвядзенне мараторыя на сьмяротнае пакаранне падпісалі былы прэм’ер-міністар Польшчы Тадэвуш Мазавецкі, рэжысёры Анджей Вайда і Казімір Куц, акторкі Анна Палоні і Крыстына Янда, пісьменніца Крыстына Кофта, грамадзкія дзяячкі Яніна Ахойска, Хенрыка Крыванос, еўрадэпутаты Ежы Бузэк, Яцэк Пратасевіч, Багуслаў Сонік ды многія іншыя. Ад моманту старту кампаніі пэтыцыю падпісала больш як 2000 асобаў з Польшчы, Эўропы, ЗША, Аўстраліі.

